ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# НАСТАЎНІЦКАЯ газета

№ 104(5286)
Аўторак,
11 верасня
2001 года

*Выходзіць з 20 снежня 1945 года*

*Кошт у розніцу — 80 руб.*

## Адбыліся прэзідэнцкія выбары

9 верасня ў Рэспубліцы Беларусь адбыліся выбары Прэзідэнта краіны.

Па папярэдніх падліках, пераканаўчую перамогу на выбарах атрымаў Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка. За яго прагаласавала звыш 70 працэнтаў выбаршчыкаў, якія прынялі ўдзел у галасаванні.

НА ЗДЫМКУ: Аляксандр Лукашэнка дае інтэрв'ю прадстаўнікам СМІ пасля выбараў.

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ, БЕЛТА.**

Тыдзень ведаў

## Завіталі шаноўныя госці

Пачатак сёлетняга навучальнага года ў краіне адзначаны не толькі адкрыццём новых школ, а і днём ведаў, а дакладней — цэлым тыднем, што пачаўся першага верасня.

Сёлета, як і заўсёды, у кожнай школе тыдзень ведаў імкнуліся зрабіць і святочным, і аўтарскім, хоць Міністэрства адукацыі давала парады і рэкамендацыі. Але творчасць у працы педагагічнага калектыву — заўсёды поспех. Былі разнастайныя мерапрыемствы, цікавыя сустрэчы, бацькоўскія сходы, якія аб'ядналі настаўнікаў, вучняў і іх бацькоў у жаданні атрымаць веды, прычым трывалыя.

Гімназія № 12 Мінска — паказчык якасці ведаў. У мінулым навучальным годзе з 94 выпускнікоў 34 атрымалі медалі, прычым усе медалісты паступілі ў ВНУ.

Вернемся ж да тыдня ведаў. У дванаццатай гімназіі ён быў насычаны разнастайнымі сустрэчамі. Мне давялося папрысутнічаць на сустрэчы юрыдычнага класа са старшынёй Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь Г.С.Васілевічам. Постаць вельмі значная ў структуры нашай улады. Кожны старшакласнік, напэўна, не раз чуў гэтае прозвішча па радыё, сустракаўся з ім на тэлебачанні, чытаў пра яго на старонках перыядычнага друку. А тут была магчымасць убачыць яго на ўласныя вочы. Г.С.Васілевіч трымаў сябе проста, ён стаяў перад заваражанай школьнай аўдыторыяй і расказваў пра Канстытуцыйны суд увогуле, пра яго адметнасці ў нашай краіне. Ён запэўніў прысутных у тым, што канстытуцыя Рэспублікі Беларусь адпавядае сусветным стандартам, што асноўнай задачай Канстытуцыйнага суда з'яўляецца праверка на адпаведнасць актаў, законаў, якія прымае ўрад, зместу канстытуцыі. Уразіў той факт, што Генадзь Сцяпанавіч вельмі лёгка валодаў увагай адзінаццацікласнікаў. Напэўна, таму, што ў яго выступленні не было сухой тэрміналогіі, а гучалі простыя, даступныя, зразумелыя словы. Вучні на працягу гадзіны слухалі свайго госця, але, на жаль, не задалі яму ні аднаго пытання, хоць у вачах падлеткаў іх было шмат (мабыць, не хапіла смеласці). У канцы сустрэчы Г.С.Васілевіч пажадаў будучым выпускнікам поспехаў і выказаў спадзяванне, што ў будучым яны стануць дастойнымі грамадзянамі сваёй краіны.

У рамках тыдня ведаў у гімназіі № 12 адбылася сустрэча ўжо дзесяцікласнікаў з дэканам факультэта кіруючых работнікаў і спецыялістаў пазашкольных устаноў і выхавання Акадэміі паслядыпломнай адукацыі Ірынай Іванаўнай Прачаковай. Дэвізам тыдня ведаў у гімназіі сталі наступныя словы: "У XXI стагоддзе — з новай адукацыяй". Ён і стаў тэмай сустрэчы Ірыны Іванаўны са старшакласнікамі. Кожны пагодзіцца з тым, што для XXI стагоддзя неабходны новы чалавек з новымі ведамі. Як сказала І.І.Прачакова, ён павінен быць чалавекам, здольным вырашаць праблемы. З аднаго боку — гэта доля, а з другога — гонар. Таму чалавек XXI стагоддзя — высокаадукаваны чалавек. Калі госця запытала ў аўдыторыі, што значыць годная адукацыя, то, на мой погляд, атрымала і годны адказ. Ён прагучаў з вуснаў адной дзесяцікласніцы: "Годная адукацыя — тая адукацыя, якая ў будучым забяспечыць адпаведна годную і высокааплачваемую працу". Значыць, і патрабаванні да такой адукацыі павінны быць адпаведныя. Сёння, каб атрымаць якасныя веды, трэба вучыцца ў добрай гімназіі ці займацца з рэпетытарам. Усё гэта каштуе грошай, якіх не ва ўсіх дастаткова, таму адной з галоўных задач школьнай рэформы з'яўляецца якаснае павышэнне ўзроўню адукацыі ў школах. Гэта разумеюць настаўнікі, вучні і іх бацькі, што пацвердзілася, калі я трапіла на бацькоўскі сход.

Бацькоўскія сходы, што праводзіліся ў гімназіі, былі прысвечаны развіццю школьнай адукацыі да 2005 года. Калі прысутнічала на бацькоўскім сходзе ў 6"Б" класе, то заўважыла сярод бацькоў разуменне і падтрымку школьнай рэформы. Яны вельмі старанна, каб нічога не прапусціць, запісвалі ў свае блакноты новыя прапановы, патрабаванні, просьбы. Ніхто з іх не выказаў прэтэнзій наконт аплаты падручнікаў ці наконт новых патрабаванняў да школьнай формы. Хутка быў абраны бацькоўскі камітэт класа. На развітанне з вуснаў класнага кіраўніка 6"Б" класа дванаццатай гімназіі прагучала просьба аб падтрымцы ў дзецях жадання вучыцца.

Скончыўся тыдзень ведаў, але пачаўся чарговы год ведаў, які таксама будзе насычаны сустрэчамі, святамі, а галоўнае — набыццём новых уменняў і навыкаў, якія так патрэбны, каб потым атрымаць годную прафесію.

**Вольга ДУБОЎСКАЯ.**

Навіны

### Тварыце, юныя!

Пачатку новага навучальнага года прысвечаны тыдзень знаёмства з Рэспубліканскім цэнтрам тэхнічнай творчасці навучэнцаў (вул.Макаёнка, 12), які завяршыўся святам "Прывітанне, цэнтр!"

Больш як сорак гурткоў і секцый складаюць чатыры аддзелы цэнтра — навукова-тэхнічны, спартыўна-тэхнічны, вытворча-тэхнічны і арганізацыйна-масавай работы. У ім займаюцца навучэнцы ва ўзросце ад 6 да 18 гадоў, запіс праводзіцца да 15 верасня.

Для лепшага азнаямлення з пазашкольнай навучальнай установай і яе падраздзяленнямі ладзяцца дні адкрытых дзвярэй, а ў мінулую нядзелю адбылося свята "Прывітанне, Цэнтр!" на стадыёне "Вікторыя" (побач з паркам Чалюскінцаў).

На спартыўна-тэхнічным свяце будучым тэхнікам была прадастаўлена магчымасць выбраць для сябе цікавы і карысны занятак.

**Вільям АСТРЫНСКІ.**

### На кожным уроку

Педагагічны стаж Станіслава Лукашэвіча налічвае 36 гадоў. 25 з іх ён выкладае гісторыю ў Вязьеўскай сярэдняй школе Асіповіцкага раёна, з'яўляецца пастаянным аўтарам газеты.

Пра што праінфарміраваў Станіслаў Іосіфавіч у чарговым тэлефанаванні?

Прачула і змястоўна ён паведаміў, што першы тыдзень занятках ў школе прайшоў пад знакам Ведаў. Іх культ адчуваецца літаральна на кожным кроку, пачынаючы ад агульнашкольнай урачыстай лінейкі, пад'ёму сцяга, спецыяльнага выпуску насценгазеты, урокаў, прысвечаных слынным айчынным дзеячам навукі, адукацыі, культуры, і заканчваючы звычайнымі, штодзённымі ўрокамі.

Станіслаў Іосіфавіч ад сябе асабіста пажадаў сваім вучням поспехаў у вучобе, выказаў, зыходзячы са свайго жыццёвага і працоўнага вопыту, спадзеў, што яны зразумеюць сутнасць выразу "Веды акрыляюць чалавека".

Да правядзення Тыдня ведаў далучылася і кіраўніцтва мясцовага калгаса "Авангард".

**Наш кар.**

### Свята працягваецца

Ушанавалі ветэранаў

...Яшчэ няма дзесяці, а ў фае ўжо збіраюцца ўрачыстыя, пасвяточнаму апранутыя настаўнікі. А роўна ў дзесяць вялікая зала Добрушскага Дома культуры — запоўнена цалкам. Тым, хто крышачку прыпазніўся, давялося ўладкоўвацца на балконе.

Па даўняй добрай традыцыі, у ДК сабраліся паважаныя педагогі раёна, кіраўнікі мясцовых Саветаў дэпутатаў, працоўных калектываў, базавых арганізацый.

Пасля афіцыйнага прадстаўлення гасцей на сцэну выходзяць дзеці, каб павіншаваць настаўнікаў з пачаткам новага навучальнага года. Якімі шчырымі, пранікнёнымі былі дзіцячыя словы!

Пачатак нарады прысвечаны тым работнікам сістэмы адукацыі, якія ўсё сваё жыццё аддалі справе навучання і выхавання дзяцей і атрымалі права на заслужаны адпачынак.

Вядучая па чарзе запрашае на сцэну педагогаў-ветэранаў. З хваляваннем, нібы ўпершыню пераступаючы парог класа, падымаюцца яны на сцэну:

Людміла Ягораўна Кузьміна, дырэктар Краснабудскай базавай школы;

Давыдзюк Ганна Захараўна, настаўніца мовы і літаратуры сярэдняй школы № 3 Добруша;

Крэс Еўдакія Андрэеўна, настаўніца французскай мовы сярэдняй школы № Добруша;

Зайцава Любоў Фёдараўна, настаўніца хіміі сярэдняй школы № 3 Добруша і іншыя педагогі.

У іх адрас гучаць словы падзякі за шматгадовую плённую і высакародную працу.

Штогод на змену ветэранам педагагічнай працы прыходзяць маладыя спецыялісты. Сёлета іх — 52 чалавекі. Прыемна, што большасць з іх — ураджэнцы Добрушскага раёна.

Маладых спецыялістаў віншуюць з пачаткам педагагічнай дзейнасці, даюць наказы і жадаюць поспехаў ветэраны педагагічнай працы.

**Святлана КАВАЛЁВА.**

### Хачу быць афіцэрам

У Ваеннай акадэміі Рэспублікі Беларусь на сёння вучацца 44 курсанты — ураджэнцы старажытнага Нясвіжа, выпускнікі сярэдняй школы № 4.

А шлях у гэтую прэстыжную вышэйшую ваенную навучальную ўстанову быў пракладзены юнымі нясвіжанамі пяць гадоў таму назад. Дырэктар гарадской сярэдняй школы № 4 Міхаіл Мацаль і тагачаснае камандаванне палка сувязі, які дыслацыруецца ў райцэнтры, стварылі ў навучальнай установе ваенна-патрыятычны клас. Справы заладзіліся. Юнакі, якія прайшлі той клас, сказалі сабе: "Хачу быць афіцэрам".

З першых дзён з будучымі прафесійнымі вайскоўцамі пачалі займацца высокакваліфікаваныя выкладчыкі, найперш фізікі і матэматыкі. Выпускнікі класа, як правіла, па гэтых прадметах набываюць грунтоўныя веды.

Адразу ж быў усталяваны кантакт з Ваеннай акадэміяй Рэспублікі Беларусь. Кіраўніцтва спецыфічнай вышэйшай навучальнай установы, асабліва факультэта сувязі і аўтаматычных сістэм кіравання, упэўнілася, што выпускнікі школы — дастойныя кандыдаты ў курсанты...

Сёлета дзесяць выхаванцаў школы апранулі вайсковую форму курсанта акадэміі. Па словах намесніка дырэктара школы Алы Казак, бліскуча вытрымалі ўступныя экзамены ў акадэмію Юрый Статкевіч, Сяргей Цыбульскі, Яраслаў Лігер.

Дарэчы, сённяшнія курсанты-першакурснікі ў свой час абаранялі гонар школы на алімпіядах па фізіцы і матэматыцы, былі прыкладнымі ў вучобе і паводзінах. І, як расказала Ала Мікалаеўна, яны і цяпер па магчымасці сустракаюцца з вучнямі класа, распавядаюць пра ВНУ, вучобу, пра тое, што "ёсць такая прафесія — абараняць Радзіму".

**Міхаіл ЛАГУН.**

## "Добры падручнік — шчасце для цэлага пакалення"

Днямі ў Навукова-метадычным цэнтры вучэбнай кнігі і сродкаў навучання ў рамках выставы "Падручнікі да новага навучальнага года" адбылася сустрэча з пісьменнікамі, аўтарамі падручнікаў па літаратурным чытанні для пачатковай школы А.В.Вольскім і А.К.Клышкам.

Сустрэча праходзіла непасрэдна ў зале выставы, таму настрой у яе ўдзельнікаў быў адпаведны. Вакол было шмат падручнікаў (новенькіх, каляровых) па матэматыцы, фізіцы, хіміі, біялогіі, літаратурах (беларускай, рускай), мовах і інш., дапаможнікаў для настаўнікаў і вучняў. На асобным стэндзе стаялі буквары розных краін свету. І гэта не выпадкова. Першы падручнік у жыцці кожнага дзіцяці — буквар. Буквар — першакрыніца ведаў, менавіта з яго пачынаецца шлях у цікавую краіну, назва якой — веды. І ад таго, які быў буквар, залежыць далейшае ўспрыняцце ведаў, фарміраванне адпаведных адносін да працэсу навучання. Таму гаворка была прысвечана буквару і падручнікам па літаратурным чытанні для пачатковай школы.

Першым слова ўзяў Артур Вітальевіч Вольскі, аўтар "Буслянак" — падручнікаў па літаратурным чытанні для 1-3 класаў агульнаадукацыйнай школы з беларускай мовай навучання, падручніка "Беларусачка" для першага класа агульнаадукацыйнай школы з рускай мовай навучання, член Саюза пісьменнікаў Беларусі. У сваім выступленні ён адзначыў, што пачынаць было цяжка, не хапала ведаў па методыцы стварэння падручнікаў для маленькіх дзетак. І толькі дзякуючы Ірыне Андрэеўне Гімпель, кіраўніку сектара пачатковага навучання навукова-метадычнага цэнтра вучэбнай кнігі і сродкаў навучання, з'явіўся вопыт у галіне методыкі стварэння падручнікаў. Дарэчы, яна з'яўляецца сааўтарам А.В.Вольскага ў стварэнні "Буслянак" і "Беларусачкі". "Трэба было сачыць, каб творы ў падручніках былі на дастаткова высокім мастацкім узроўні", — казаў Артур Вітальевіч. І сапраўды, "Буслянкі" вызначаюцца такім узроўнем твораў. Яны ўключаюць вершы, апавяданні, казкі як сучасных аўтараў, так і нашых славутых класікаў (Я.Коласа, Я.Купалы, У.Дубоўкі, М.Танка і інш.). Вельмі зручным для дзяцей з'яўляецца шрыфт. Падручнікам, праўда, не хапае малюнкаў, але яны вельмі якасна зроблены дзякуючы прыватнаму выдавецтву "Асар". Вялікую падзяку за падручнік выказала ўдзельніца сустрэчы, настаўніца пачатковых класаў сярэдняй школы № 190 Мінска Ніна Уладзіміраўна Піскун. "У гэтым навучальным годзе мы пачынаем працаваць па "Буслянцы". Гэта добрыя, цудоўныя падручнікі. Напісаць падручнік — справа цяжкая, але добры падручнік — вялікая дапамога настаўніку, яго дарадчык у працы", - сказала Ніна Уладзіміраўна.

Выступленне А.В.Вольскага было творчым, у ім гучалі дзіцячыя вершы, жартоўныя лічылкі. Яму дапамагалі вучні сярэдняй школы № 190, якія чыталі вершы з "Буслянкі".

Далейшым выступоўцам стаў Анатоль Канстанцінавіч Клышка — аўтар вучэбна-метадычнага комплексу па навучанні грамаце для падрыхтоўчага класа агульнаадукацыйнай школы з беларускай і рускай мовамі навучання, падручніка па літаратурным чытанні "Чабарок" для трэцяга класа агульнаадукацыйнай школы з рускай мовай навучання, член Саюза пісьменнікаў Беларусі, Заслужаны дзеяч культуры. На выстаўцы былі прадстаўлены буквары для школ з беларускай і рускай мовамі навучання, выпушчаныя ў 2001 годзе выдавецтвам "Народная асвета". У 1999 годзе буквар А.К.Клышкі заняў першае месца ў Рэспубліканскім конкурсе па стварэнні нацыянальнага буквара. Рускі варыянт буквара, у адрозненне ад беларускага, вызначаецца больш якаснымі, прыгожа выкананымі малюнкамі. Акрамя таго, беларускі буквар неабходна дапрацоўваць яшчэ і ў метадалагічным плане. Стварыць буквар — справа няпростая. "Думаю, што ўсе адчуваюць, як складана стварыць буквар. Стварыць нейкі тэкст, калі ўсе літары яшчэ не пройдзены, усё роўна што стварыць нейкі рэбус ці шараду. А трэба зрабіць так, каб проста чыталася і пры гэтым прысутнічаў выхаваўчы момант", — казаў Анатоль Канстанцінавіч. З гэтым цяжка не пагадзіцца, бо ў адным-двух вершаваных радках павінны спалучацца і выхаванне, і навучанне. Таму адбор тэкстаў вельмі жорсткі: "Тэкст, які трапіў у падручнік, чытае настаўнік, яго чытаюць дзеці, прычым неаднаразова. Трэба, каб ён не надакучаў, да таго ж быў павучальны, высокамастацкі", — працягваў А.К.Клышка. Усё гэта так, але тэкст яшчэ павінен адпавядаць і ўзросту дзіцяці, каб не страчваць свае вартасці.

З вуснаў А.К.Клышкі прагучалі выдатныя словы: "Добры падручнік — шчасце для цэлага пакалення". Гэта сапраўды так, бо, напэўна, кожны з нас разумее зручнасць падручніка, у якім сабрана ўся неабходная інфармацыя, ды яшчэ на высокім узроўні, і калі не трэба звяртацца да іншых крыніц. Нам абавязкова патрэбны нацыянальны буквар, які б адпавядаў патрабаванням сучаснасці. І галоўнае — быў даспадобы нашым дзецям.

**Вольга ДУБОЎСКАЯ.**

НА ЗДЫМКАХ: А.В.Вольскі чытае свае вершы; вучаніца першага класа сярэдняй школы №190 Мінска чытае верш А.В.Вольскага.

**Фота Юрыя БОНДАРАВА.**

*Второе образование*

**РЕСПУБЛИКАНСКИЙ ИНСТИТУТ ВЫСШЕЙ ШКОЛЫ БЕЛГОСУНИВЕРСИТЕТА**

**Кафедра экономических наук**

**объявляет набор на курсы переподготовки по очно-заочной форме**

*Специализация "Экономическая политика"*

*Срок обучения — 1,5 года*

*Обучение — бесплатное*

*Диплом — государственного образца*

*Присваиваемая квалификация — преподаватель экономических дисциплин*

*Иногородним предоставляется общежитие*

**Документы принимаются до 20 декабря 2001 г.**

Кафедра экономических наук постоянно проводит повышение квалификации преподавателей учебных заведений всех уровней на курсах "Экономические теории" и "Основы экономической политики" с выдачей свидетельства о повышении квалификации. Возможна сдача квалификационного экзамена на получение высшей категории.

**Наш адрес: г.Минск, ул.Московская, 15-212**
**Тел.: 222-83-03; 219-06-68**

### Надрукуем у IV квартале на старонках "Настаўніцкай газеты"

У красавіку — маі 2001 г. у рэспубліцы прайшло арганізаванае Рэспубліканскім інстытутам кантролю ведаў цэнтралізаванае тэсціраванне выпускнікоў агульнаадукацыйных школ па беларускай і рускай мовах, матэматыцы, фізіцы. Многія з амаль 32000 вучняў, якія прынялі ўдзел у тэсціраванні, заявілі яго вынікі ў якасці адзнак выпускных экзаменаў у школах, або уступных экзаменаў у ВНУ, ССНУ, ПТВ.

З мэтай азнаямлення шырокай грамадскасці з новымі формамі кантролю ведаў, якія праходзяць эксперыментальнае апрабаванне ў Рэспубліцы Беларусь і Расійскай Федэрацыі, у кастрычніку 2001 года "Настаўніцкая газета" плануе апублікаваць у спецыяльным выпуску варыянты тэкставых заданняў, якія прапанаваліся на цэнтралізаваным тэсціраванні 2001 года ў нашай краіне, а таксама варыянты адзінага Дзяржаўнага экзамена па біялогіі, грамадазнаўстве, рускай мове, фізіцы, матэматыцы, хіміі, які праводзіўся ў Расіі.

Прымаем заяўкі на спецвыпуск ад арганізацый і ўстаноў па адрасе: 220054 г.Мінск, вул.Захарава, 42, рэдакцыя "Настаўніцкай газеты". Кошт аднаго экзэмпляра — 320 рублёў. Даведкі па тэлефонах: 2-36-43-62, 2-36-53-22 (таксама факс).

Вопыт

# Метад праектаў

## Выкарыстоўваецца пры вывучэнні замежнай мовы ў гімназіі № 1 Слоніма

***Гімназія № 1 Слоніма — адна з першых агульных сярэдніх спецыяльных устаноў горада, якая пачала прымяняць у сваёй працы метад праектавання, асабліва пры вывучэнні замежнай мовы.***

Ва ўмовах сацыяльна-эканамічных перамен прамое перайманне і капіраванне сацыяльнага вопыту папярэдніх пакаленняў, стаўка на пасіўнае засваенне ведаў і навыкаў, нярэдка адарваных ад рэальнасці, становяцца шмат у чым бескарыснымі.

Павышаецца ўзровень "тэхналагічнасці" вытворчасці, паслуг, узровень жыцця ўвогуле — гэта сусветная тэндэнцыя.

Такім чынам, актуальнай становіцца задача павышэння ўзроўню "тэхналагічнасці" ўласнай жыццядзейнасці, навучання вучняў метадам праектавання з мэтай фарміравання ўстойлівай пазнавальнай патрэбнасці, творчага і асобаснага самавызначэння.

Усвядоміўшы, што праектаванне рэалізуе ідэі асобасна арыентаванай педагогікі і вызначае сучаснае інавацыйнае аблічча школы, настаўнікі замежных моў нашай гімназіі шырока выкарыстоўваюць у працы разам з іншымі тэхналогіямі тэхналогію праектаў.

Метад праектаў знайшоў шырокае прымяненне ў сувязі са змяненнем ідэалогіі 90-х. Змяніўся погляд на сутнасць чалавека і яго ролю. Неабходна было знайсці новыя механізмы сацыялізацыі і даць магчымасці для творчай рэалізацыі. Гэта можна ажыццявіць з дапамогай праектавання. Перавага праектавання — гэта рэалізацыя педагогікі супрацоўніцтва, сатворчасці, раскрыццё індывідуальнасці вучня. Гэта калектыўнае навучанне ў дыялогу, раскрыццё новых граняў творчага патэнцыялу вучняў, магчымасць арганічна інтэграваць веды з розных галін пры вырашэнні адной праблемы і прымяняць атрыманыя веды на практыцы.

Першае знаёмства гімназіі з метадам праектаў адбылося каля шасці гадоў назад (тады яна была яшчэ школай з паглыбленым вывучэннем замежнай мовы). Педагогі школы прымалі ўдзел у рабоце міжнароднай канферэнцыі па тэхналогіі праектавання, арганізаванай Брытанскім Саветам. Гэты метад зацікавіў педагагічны калектыў. Практычныя заняткі на метадычных аб'яднаннях, старанне вывучэнне літаратуры, вучоба ў зімовай і летняй школах Брытанскага Савета дазволілі глыбей даследаваць метад праектаў і актыўна выкарыстоўваць яго ва ўрочнай і пазаўрочнай дзейнасці.

Адным з накірункаў работы нашай школы з паглыбленым вывучэннем замежнай мовы было вывучэнне традыцый і святаў англамоўных краін. І метад праектаў атрымаў практычную рэалізацыю пры стварэнні газет, сцэнарыяў вечароў, напісанні творчых сачыненняў (да Дня Святога Валянціна, святаў Хэлоуін, Каляд, Новага года). Па меры работы па гэтай тэхналогіі ў нас з'явіліся ідэі выкарыстання розных відаў праектаў: творчых і інфармацыйных з элементамі даследавання, ролева-гульневых і міжпрадметных. Як правіла, нашы праекты былі сярэдняй працягласці (1-2 месяцы). Прыкладам агульнашкольнага творчага праекта можа служыць праект "Вучні і настаўнікі". У працэсе работы яго ўдзельнікі бралі інтэрв'ю, пісалі гумарыстычныя апавяданні, эсэ, оды, пасланні будучым пакаленням вучняў, малявалі сяброўскія шаржы. Гэта дапамагло глыбей унікнуць у праблемы ўзаемаадносін настаўнікаў, вучняў, бацькоў, спраектаваць школу будучага. Добрыя ўражанні ў нашых вучняў засталіся пасля ўдзелу ў конкурсе "Важнейшыя дасягненні XX стагоддзя", які завяршыўся абаронай праектаў у выглядзе прэзентацыі буклетаў, створаных па выніках сацыяльнага апытання настаўнікаў і вучняў школы, песень, газет. Гэта была міжпрадметная, даследчая праца, якая запатрабавала апрацоўкі інфармацыі, генерыравання ідэй, работы з даведнікамі.

Паступова метад праектаў стаў актыўна прымяняцца настаўнікамі нашай школы на ўроках англійскай мовы. Для выкарыстання гэтага метаду патрэбна значная падрыхтоўка, а самае галоўнае — выбар праблемы, аднолькава цікавай як для настаўнікаў, так і для вучняў. Стаўшы гімназіяй, мы актыўна прадаўжалі выкарыстоўваць тэхналогію праектаў.

Зразумела, што змяненне сацыякультурнай сітуацыі ў краіне прывяло да дамінавання філасофіі прагматызму сярод моладзі. Ім хочацца бачыць рэальны вынік сваёй працы, а праекты, як мы пераканаліся, маюць не толькі пазнавальную, выхаваўчую, развіццёвую, але і прагматычную каштоўнасць. Гэта шлях павышэння ступені згуртаванасці вучнёўскага і настаўніцкага калектываў, аб'яднаных агульнай задумай, гэта шлях да самакіравання і забеспячэння рэальнай сувязі навучання з жыццём.

Пераканаліся мы і ў тым, што падключэнне да сістэмы Інтэрнэт дае унікальныя магчымасці для работы па метадзе праектаў па ўрочнай і пазаўрочнай дзейнасці, таму што сусветная сетка забяспечвае не толькі доступ да інфармацыі, але і рэальную моўную практыку. У мінулым годзе вучні гімназіі з цікавасцю ўключыліся ў стварэнне міжнародных тэлекамунікацыйных праектаў. Найбольш плённай і масавай была праца ў рамках праектаў "Аспекты кахання", "Законы жыцця", "Мой любімец", "Гісторыя роднага краю", "Vision", "Гульні вольнага часу", "Адзін дзень у жыцці", за што ўдзельнікі атрымалі станоўчыя водгукі каардынатараў і партнёраў.

Беручы ўдзел у міжнародных праектах, вучні ўдасканальвалі свае моўныя навыкі, рыхтуючы эсэ, рэфераты і сачыненні, развівалі паэтычныя і мастацкія схільнасці; праводзілі даследаванні; займаліся пошукам інфармацыі, а галоўнае, выкарыстоўвалі замежную мову ў сваёй прамой функцыі — як сродак фарміравання і фармулявання думак. Акрамя таго, Інтэрнэт дае вучню магчымасць уступаць у жывы (вусны або пісьмовы) дыялог з рэальным партнёрам, што фарміруе моўную кампетэнцыю і навыкі міжкультурнага ўзаемадзеяння. Выкарыстанне магчымасцей электроннай пошты ў вучэбным працэсе дапамагае больш эфектыўна вырашаць дыдактычныя задачы ўрока. Так, атрыманыя па пошце паведамленні іншых удзельнікаў праектаў выкарыстоўваюцца для развіцця маналагічнай і дыялагічнай мовы ў працэсе абмеркавання выкладзеных у іх праблем, для развіцця навыкаў пісьмовай мовы пры складанні водгукаў і адказаў, для знаёмства з культурай краіны, рэаліямі, традыцыямі, асаблівасцямі моўных паводзін. Усё гэта садзейнічае фарміраванню матывацыі іншамоўнай дзейнасці вучняў на аснове выкарыстання жывых матэрыялаў і прадастаўленай магчымасці сказаць што-небудзь гэтаму свету.

Настаўнікі замежных моў нашай гімназіі прытрымліваюцца меркавання, што актыўны ўдзел у міжнародных праектах садзейнічае рэалізацыі праграмы Еўрапейскага года моў, дэвіз якога — мовы адчыняюць дзверы. Менавіта праекты дазваляюць ажыццяўляць міжасобасныя і міжкультурныя ўзаеміны, праяўляючы павагу да партнёра як носьбіта іншай мовы і іншай культуры.

**Я.БУМАГІНА,**
**загадчык кафедры замежных моў гімназіі № 1 Слоніма;**
**Л.КУРДУН,**
**Т.ПАНАСЕНКА,**
**Т.САВІЧ,**
**настаўнікі англійскай мовы.**

Юрыдычная кансультацыя

# Скарачэнне штату

***У сувязі са шматлікімі зваротамі работнікаў галіны ў адрас ЦК прафсаюза Беларускага прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі па пытанні скарачэння колькасці або штату работнікаў тлумачэнні дае загадчык аддзела прававой абароны і аховы працы Л.В.Манюк.***

У адпаведнасці з пунктам 1 артыкула 42 Працоўнага Кодэкса Рэспублікі Беларусь (далей — ПК РБ) наймальнік мае права правесці скарачэнне колькасці або штату работнікаў.

Ва ўмовах школы скасаванне працоўнага дагавора па скарачэнні колькасці або штату, выкліканым змяненнем вучэбных планаў і праграм, што прывяло да змяншэння вучэбнай нагрузкі і скарачэння класаў-камплектаў, павінна праводзіцца пасля заканчэння навучальнага года (П.2.12 Тыпавых правілаў унутранага працоўнага распарадку для работнікаў агульнаадукацыйных устаноў Рэспублікі Беларусь).

На працягу навучальнага года скарачэнне штатаў можа мець месца толькі ў выключных выпадках, напрыклад, пры рэзкім змяншэнні колькасці вучняў, пры пераводзе часткі вучняў у іншыя школы.

Працэдура (парадак) звальнення пры скарачэнні колькасці або штату работнікаў падзяляецца на некалькі стадый.

**Першая** — прымаецца рашэнне аб скарачэнні адпаведных працоўных месцаў або пасад, якое афармляецца загадам. На аснове загаду ўносяцца адпаведныя змены ў штатны расклад, які з'яўляецца адным з асноўных доказаў факта скарачэння.

**Другая** — персанальны адбор работнікаў, намечаных да скарачэння.

Артыкул 45 ПК РБ прадугледжвае два крытэрыі адбору:

асноўны — пераважнае права;

дадатковы — перавага.

Пераважнае права пакідання на працы маюць работнікі з больш высокай прадукцыйнасцю працы і кваліфікацыяй і ў іншых выпадках, прадугледжаных заканадаўствам.

Узровень кваліфікацыі пацвярджаецца адпаведным дакументам аб спецыяльнай адукацыі, а таксама вызначаецца разрадам, класам, катэгорыяй.

Працу спецыялістаў і кіраўнікоў характарызуе не прадукцыйнасць, а выніковасць. Так, перавага пакідання на працы аддаецца настаўнікам, якія маюць лепшыя паказчыкі ў вучэбна-выхаваўчай рабоце.

Пры роўнай прадукцыйнасці працы перавага ў пакіданні на працы аддаецца наступным катэгорыям работнікаў: хворым і тым, хто перанёс прамянёвую хваробу, прымаў удзел у 1986-1989 гадах у ліквідацыі наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, працаваў у зоне эвакуацыі, інвалідам (частка 2 артыкула 45 ПК РБ).

Перавагу ў пакіданні на працы могуць мець і іншыя катэгорыі работнікаў на аснове прадугледжанага заканадаўствам калектыўнага дагавора, пагаднення.

Напрыклад, у калектыўным дагаворы можна вызначыць наступныя катэгорыі работнікаў: сямейныя пры наяўнасці двух і больш утрыманцаў, работнікі, якія маюць працяглы бесперапынны стаж працы ў данай арганізацыі, атрымалі траўму або прафзахворванне на вытворчасці, работнікі, якім да пенсіі засталася мінімальная колькасць гадоў (2-5), работнікі, выбраныя ў склад прафсаюзных органаў і інш.

Не дапускаецца скасаванне працоўнага дагавора па скарачэнні штатаў з цяжарнымі жанчынамі, жанчынамі, якія маюць дзяцей ва ўзросце ад трох да чатырнаццаці гадоў, дзяцей-інвалідаў да васемнаццаці гадоў (арт. 268 ПК РБ).

**Трэцяя** — наймальнік абавязаны пагутарыць з кожным работнікам, намечаным на скарачэнне, прапанаваць у пісьмовай форме пад распіску іншую працу (пасаду), якія ёсць у арганізацыі.

У выпадку адмовы ад прапанаванай працы работніка папярэджваюць у пісьмовай форме не менш чым за 2 месяцы аб маючым адбыцца скарачэнні (арт. 43 ПК РБ). Форма папярэджання адвольная — загад, запіска. У калектыўным дагаворы можна прадугледзець больш працяглы тэрмін папярэджання.

Пасля папярэджання кадравая служба не менш чым за 2 месяцы накіроўвае паведамленне ў дзяржаўную службу занятасці (яе адпаведны цэнтр) аб маючым адбыцца скарачэнні, у якім указвае прафесію, спецыяльнасць, кваліфікацыю кожнага работніка, які будзе вызвалены, і памер аплаты яго працы (арт. 10 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб занятасці насельніцтва Рэспублікі Беларусь").

Скасаванне працоўнага дагавора па пункце 1 артыкула 42 ПК РБ робіцца пасля папярэдняга, але не пазней чым за два тыдні, паведамлення адпаведнага прафсаюза (арт. 46 ПК РБ). У калектыўным дагаворы неабходна прадугледзець скасаванне працоўнага дагавора па ініцыятыве наймальніка з папярэдняй згоды адпаведнага прафсаюза.

Наймальнік мае права са згоды работніка замяніць папярэджанне аб маючым адбыцца вызваленні выплатай кампенсацыі ў памеры двухмесячнага сярэдняга заробку.

У перыяд папярэджання работнік можа звольніцца па жаданні (арт. 40 ПК РБ).

У адпаведнасці з часткай 6 артыкула 43 ПК РБ у перыяд тэрміну папярэджання работніку прадастаўляецца адзін свабодны дзень у тыдзень без захавання заработнай платы (па дамоўленасці з наймальнікам — з захаваннем заработнай платы) для вырашэння пытання аб самастойным працаўладкаванні ў іншых наймальнікаў.

Звальненне работніка па пункце 1 артыкула 42 ПК РБ не дапускаецца ў перыяд часовай непрацаздольнасці (акрамя звальнення па пункце 6 артыкула 42) і ў перыяд знаходжання работніка ў адпачынку (працоўным, вучэбным, без захавання заработнай платы і інш.).

Пасля таго як работнік адмовіўся ў пісьмовай форме ад усіх прапанаваных вакансій, а наймальнік не меў магчымасці перавесці яго на іншую працу, у тым ліку з перанавучаннем (пункт 1 артыкула 42 ПК РБ), пасля заканчэння тэрміну папярэджання выдаецца загад аб звальненні работніка па скарачэнні колькасці або штату работнікаў з выплатай выхадной дапамогі ў памеры не менш трохкратнага сярэдняга заробку.

Сумяшчальнікам выхадная дапамога не выплачваецца.

З грашовых сум выхадной дапамогі не ўтрымліваюцца падаткі і не робяцца спагнанні па даўгах. Днём звальнення з'яўляецца апошні дзень працы. У дзень звальнення работніку павінна быць выдадзена працоўная кніжка, адпаведна афармленая (арт. 50 ПК РБ), і выплачаны ўсе сумы, якія яму належаць. Пры звальненні па скарачэнні колькасці або штату работнікаў бесперапынны працоўны стаж захоўваецца на працягу 3 месяцаў з дня звальнення (частка 1 артыкула 16 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб занятасці насельніцтва Рэспублікі Беларусь").

Асновы бяспекі

# Няшчасны выпадак?

Свядомыя і адказныя адносіны дзіцяці да пытанняў уласнай бяспекі — справа складаная і патрабуе пэўнай увагі. Менавіта сучасная школа сёння павінна не толькі сфарміраваць асобу, але і падрыхтаваць падрастаючае пакаленне да рэальнага жыцця.

Сучаснасць дыктуе неабходнасць стварыць у школе ўмовы для падтрымання і ўмацавання здароўя, сфарміраваць патрэбу штодзённа ставіцца да яго беражліва. Узаемасувязь пытанняў бяспекі жыццядзейнасці з культурай жыцця — відавочная. А гэта — аснова фарміравання новай якасці культуры мыслення.

Праблемы нашага стагоддзя вызначаюць, якой быць сёння адукацыі. Як ні парадаксальна гучыць, але сучаснаму чалавеку патрэбна бяспека ад яго ж уласнай жыццядзейнасці.

Увогуле ўмовы ўзнікнення прыродных, антрапагенных і тэхнагенных сітуацый неабходна вывучаць, каб супрацьстаяць ім. Таму адказнасць за падрыхтоўку школьнікаў па пытаннях бяспекі невыпадкова ўскладаецца на сістэму адукацыі.

Менавіта школьны курс "Асновы бяспекі жыццядзейнасці", па меркаванні Міністэрства па надзвычайных сітуацыях Рэспублікі Беларусь, павінен комплексна і сістэмна адлюстроўваць праблему бяспекі чалавека і спосабы яе вырашэння, дапамагаць не толькі вывучаць механізмы ўзнікнення небяспечных сітуацый, але і знаёміць з вопытам дзеянняў па ахове ад паражальных фактараў.

Прапанова МНС у пераглядзе праграмы дадзенага курса абумоўлена неабходнасцю фарміраваць светапогляд падрастаючага пакалення адпаведна ўмовам жыцця ў XXI стагоддзі. Праблема ў тым, што гібель і траўматызм дзяцей у выніку неваладання элементарнымі асновамі самавыратавання памылкова лічацца няшчасным выпадкам. А жыццё рэальна дыктуе неабходнасць надаць увагу і прыярытэт курсу АБЖ сярод усіх школьных прадметаў. Вядома, якасць ведаў у гэтым напрамку — важнейшая ўмова зніжэння верагоднасці памылак пры дзеяннях у надзвычайных сітуацыях, пры ўзнікненні страху і панікі — галоўных прычын стрэсу і гібелі людзей.

Выхаванне культуры бяспекі абумоўлена і запатрабавана сённяшнім днём. Агульнасць намаганняў бацькоў, выхавацеляў і настаўнікаў у вырашэнні гэтага пытання — шлях да поспеху. Безумоўна, бяспека дзіцяці, перш за ўсё, залежыць ад бацькоўскай адказнасці, уважлівасці і клопату. Таму разам з бацькамі настаўніку трэба рэгулярна звяртаць увагу на тое, што задача кожнага з іх — стварыць дома тэрыторыю бяспекі для сваіх дзяцей і быць пастаянным прыкладам у забеспячэнні ўласнай бяспекі.

Супрацоўніцтва школы з бацькамі па пытаннях папярэджання надзвычайных сітуацый павінна быць сістэматычным. Настаўніку не будзе лішнім на бацькоўскім сходзе нагадаць наступнае:

Дзеці імкнуцца паўтараць дзеянні дарослых. Таму перш за ўсё неабходна быць прыкладам для іх, нястомна паўтараць і на справе паказваць, што можна і чаго нельга рабіць.

Размаўляць з дзецьмі на тэму жыцця без рызыкі трэба цярпліва, адкрыта і рэалістычна і без усялякага запалохвання. Такія ўрокі трэба пачынаць з ранняга дзяцінства.

Трэба цікавіцца кожным крокам свайго дзіцяці і ведаць усё пра яго сяброў.

Малалетнія дзеці павінны добра памятаць сваё імя, нумар тэлефона, прозвішча бацькоў, месца іх працы.

Трэба вучыць дзіця прагназаваць надзвычайную сітуацыю, а пры яўнай пагрозе гучна клікаць на дапамогу.

Абавязкова растлумачыць дзецям прызначэнне ўсіх аварыйных службаў горада, выпісаць нумары іх тэлефонаў і звярнуць увагу на тое, што па нумары "01" цяпер можна выклікаць дапамогу не толькі ў выпадку ўзнікнення пажару, але і пры любой другой надзвычайнай сітуацыі прыроднага, тэхнагеннага характару і нават бытавога плана.

Неабходна развіваць у дзяцей назіральнасць, часцей прасіць іх апісаць чыю-небудзь знешнасць, прыкметы аўтамабіля і г.д.

Забараніць дзіцяці браць цукеркі альбо што-небудзь іншае з рук незнаёмых.

Пастаянна папярэджваць аб небяспецы садзіцца ў аўтамабіль незнаёмца.

Заўсёды трымаць малога ў полі ўвагі.

Вывучаць маршрут дзіцяці са школы да дома. Ніколі не пакідаць у кватэры яго аднаго, а тым больш дваіх-траіх дзяцей.

Праінструктаваць дзіця, што незнаёмцы павінны звяртацца за дапамогай не да іх, а толькі да дарослых.

Растлумачыць дзецям, да каго яны павінны звяртацца, калі згубіліся ў грамадскім месцы.

Вучыць дзяцей ніколі не паведамляць па тэлефону, што дома няма дарослых, нават тады, калі па голасу ён пазнае бацькоўскіх сяброў і знаёмых.

Дзеці не павінны падыходзіць да дзвярэй на званок. Пажадана, каб усе дамачадцы мелі свае ключы.

Навучыць дзяцей таму, як аказаць сабе першую дапамогу, калі яны папарэзаліся ці параніліся.

Рэгулярна сустракацца з настаўнікамі, каб мець поўнае ўяўленне аб паводзінах дзіцяці ў школе.

**Людміла КУРЫЛЬЧЫК,**
**старшы інспектар-педагог Рэспубліканскага цэнтра прапаганды і навучання пры Міністэрстве па надзвычайных сітуацыях Рэспублікі Беларусь.**

Выставы

***Заўважыў, што афармленне метрапалітэнаўскай станцыі "Плошча Якуба Коласа" разглядаю як фрагмент экспазіцыі мастацкай выставы.***

# Някідкая прыгажосць

Як выявілася, не без падставы. Да афармлення залы прыклаў рукі і талент прафесійны мастак-керамiст, які на працягу свайго творчага шляху мае справу з ... глінай, — Мікола Несцярэўскі. Мастакоўскае бачанне, адоранасць ад прыроды дазволілі яму (так і хочацца сказаць — вельмі ўжо з падручнага матэрыялу) стварыць унікальныя фігуркі, якія аздобілі фае, надалі яму ўласцівы нашаму краю каларыт — някідкую прыгажосць.

Зацікавілі асоба творцы, шляхі, якімі ён прыйшоў да дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, прызнання сярод сваіх калег як самабытны майстра.

Адказ у пэўнай ступені знайшоў, наведаўшы персанальную выставу твораў Мікалая Лаўрэнцьевіча, якая нядаўна была разгорнута ў Палацы мастацтваЎ.

Зразумела, на выставе дамінавалі скульптура, пано, барэльефы з гліны.

Хто аказаўся ў полі зроку мастака? Як правіла, неардынарныя людзі, якія заявілі пра сябе ў айчыннай культуры, грамадскай дзейнасці, блізкія і знаёмыя, а яшчэ — філасофскае асэнсаванне беларускай прыроды.

Вось скульптурная выява Адама Ягоравіча Багдановіча, этнографа, бацькі паэта Максіма Багдановіча. Звычайны партрэт, а ён праменіць мастакоўскае непаўторнае бачанне гэтага чалавека, сведчыць, што скульптура, якая выйшла з-пад рук майстра, дае права сцвярджаць, што гліна — высакародны матэрыял.

Цеплынёю вее ад скульптурнай выявы Маці Божай — філасофскага асэнсавання жанчыны ў свеце. Шмат у чым з гэтым творам пераклікаюцца іншыя работы мастака, прысвечаныя Жанчыне.

Бачу купку дзяўчат і юнакоў, якія разглядаюць пано, дэкаратыўныя скульптуры "Каваль", "Жняя", партрэты жонкі, матулі мастака. Моладзь сыходзіцца на думцы, што гліна пад рукой майстра выглядае нібы той мармур.

Мо таму старшыня секцыі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Саюза мастакоў Аляксандр Зіменка меў рацыю заявіць, што "гліна для мастака — тая глеба, дзе растуць кветкі мастацтва".

Мікалай Лаўрэнцьевіч здзівіў калег па мастакоўскім цэху тым, што ў апошні час звярнуўся да жывапісу, паказаў на выставе шэраг работ.

— Па жыцці мяне, — расказаў Мікалай Лаўрэнцьевіч, — вядуць праца і мастацтва. Напрыклад, мне давялося ў свой час закончыць тэатральна-мастацкі інстытут, сумяшчаючы вучобу і працу ў ім.

Відаць, справіцца з такой нагрузкай дазволілі мае сялянскія карані і неадольная цяга да прыгожага, імкненне засведчыць сябе як мастака. Пра гэта, праўда, меркаваць людзям, якія дакрануліся да маёй творчасці.

**Уладзімір НОВІК.**
**НА ЗДЫМКАХ: некаторыя са шматлікіх твораў мастака.**
**Фота Юрыя БОНДАРАВА.**

Кансультацыя спецыяліста

# Надбаўкі за кваліфікацыйныя катэгорыі

Як вядома, з 1 мая б.г. у адпаведнасці з пастановай Міністэрства працы Рэспублікі Беларусь ад 11 мая 2001 года № 55 асноўным катэгорыям спецыялістаў адукацыі, таксама як і аховы здароўя, культуры, аднаўлены надбаўкі да ставак заработнай платы і службовых акладаў за кваліфікацыйныя катэгорыі.

Аднаўлены яны ў тых жа памерах, якія дзейнічалі і раней. З 1 студзеня 2001 г.: за вышэйшую катэгорыю — 30 працэнтаў, за першую — 20 працэнтаў, за другую — 15 працэнтаў.

Між тым, як тэлефануюць многія настаўнікі, абсалютныя памеры надбавак у рублях аказаліся менш за тыя, што налічваліся раней.

Чаму так атрымалася?

Справа ў тым, што Міністэрства працы адначасова з аднаўленнем з 1 мая б.г. надбавак за кваліфікацыйныя катэгорыі ўвяло новую методыку іх вылічэння (гл. пісьмо Мінпрацы ад 25.05.2001 г. № 03-01-07/1813).

Цяпер гэтыя надбаўкі вылічваюцца ад тарыфнай стаўкі, вызначанай у адпаведнасці з Адзінай тарыфнай сеткай без уліку павышэнняў за стаж, работу ў сельскай мясцовасці, асаблівыя ўмовы працы. Карацей кажучы, ад так званай "голай" тарыфнай стаўкі.

Напрыклад, надбаўка за кваліфікацыйную катэгорыю настаўніка 1 катэгорыі з вышэйшай адукацыяй складзе 9425 рублёў (47125 руб. стаўка настаўніка 1 катэгорыі па АТС х 20 працэнтаў).

Надбаўкі за кваліфікацыйныя катэгорыі выплачваюцца за ўсю выкананую работу (за ўсю ўстаноўленую нагрузку па тарыфікацыі, за ўсе гадзіны замены работніка, які адсутнічае).

Пры выкананні работы на ўмовах сумяшчальніцтва па асноўным месцы працы ці ў другога наймальніка выплата надбавак асноўным катэгорыям спецыялістаў, якія маюць кваліфікацыйныя катэгорыі, робіцца на агульных падставах, як і асноўным работнікам.

Работнікам устаноў адукацыі з ліку кіруючага вучэбна-выхаваўчага персаналу і іншым, якія маюць кваліфікацыйныя катэгорыі, за навучальныя гадзіны ці заняткі ў гуртках у той жа навучальнай установе надбаўкі выплачваюцца за ўсе праведзеныя гадзіны.

**Г.КАЛЕЧЫЦ,**
**загадчык аддзела эканамічнай і прафесійнай абароны Мінскага гарадскога камітэта Беларускага прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі.**

# Урокі сельска-гаспадарчай працы

***У рэдакцыю звярнулася чытачка з Гродзенскай вобласці. Яна прасіла растлумачыць некаторыя моманты арганізацыі працоўнага навучання ў сельскіх адукацыйных школах.***

Грунтоўнае тлумачэнне па гэтым пытанні даў рэдакцыі галоўны інспектар Галоўнага ўпраўлення агульнай сярэдняй адукацыі А.А.Улога:

1. Сельскія адукацыйныя школы, за выключэннем школ, якія знаходзяцца ў зоне радыяцыйнага забруджання ад 1 Кі/кв.км і вышэй, павінны працаваць па зборніку праграм "Праграмы сярэдняй агульнаадукацыйнай школы. Працоўнае навучанне, 5-9 класы сельскіх школ". — Мн., НМЦэнтр, 1996 г.

У адпаведнасці з гэтымі праграмамі, у залежнасці ад варыянту, на сельскагаспадарчую працу адводзіцца 34 гадзіны (варыянт I — для хлопчыкаў, варыянт II - для дзяўчынак) і 26 гадзін (варыянт III — для хлопчыкаў і дзяўчынак). Варыянт I і II выкарыстоўваецца ў школах, у якіх праводзіцца дзяленне класа на 2 групы (хлопчыкаў і дзяўчынак) у адпаведнасці з тлумачальнай запіскай да вучэбных планаў на 2001-2002 навучальны год (пры наяўнасці ў класе 20 і больш вучняў). Калі ж дзяленне класа не праводзіцца, выкарыстоўваецца варыянт III праграмы. Сельскагаспадарчая праца вывучаецца ў I і IV чвэрцях.

2. Больш мэтазгодна, каб сельскагаспадарчую працу выкладалі настаўнікі біялогіі, як гэта робіцца ў большасці сельскіх школ рэспублікі. Разам з тым, яе можа выкладаць і адзін з настаўнікаў працоўнага навучання, які мае спецыяльную адукацыю. Хто з настаўнікаў будзе выкладаць, вырашае кожная школа самастойна зыходзячы з мясцовых умоў.

3. Загадчыкам прышкольнага вучэбна-доследнага ўчастка прызначаецца, як правіла, настаўнік біялогіі. Разам з тым, загадчыкам можа быць і адзін з настаўнікаў працоўнага навучання, які мае спецыяльную адукацыю. Хто з настаўнікаў будзе загадчыкам участка, вырашае кожная школа самастойна, зыходзячы з мясцовых умоў.

Мэтазгодна, каб загадчыкам прышкольнага вучэбна-доследнага ўчастка быў той настаўнік, які выкладае сельскагаспадарчую працу.

4. Практычныя заняткі на ўроках сельскагаспадарчай працы павінны быць арганізаваны на прышкольным вучэбна-доследным участку, у калгасе і інш.

5. Сельскагаспадарчую працу вучняў арганізоўвае і працуе разам з імі той настаўнік, які выкладае гэты раздзел праграмы.

Галоўны рэдактар Аляксандр Гайдук

ЗАСНАВАЛЬНІК — МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Рэгістрацыйны нумар 197.

НАШ АДРАС:
220034, МІНСК, ВУЛІЦА ЗАХАРАВА, 42.
Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 36-91-42; намесніка галоўнага рэдактара — 36-40-63; бухгалтэрыі — 36-53-22; рэкламы — 36-40-63; аддзелаў: школ — 36-43-62; праблем выхавання, навукі — 36-43-71, 36-90-63; інфармацыі — 36-41-55; ВНУ і тэхнікумаў — 36-44-25; прафтэхадукацыі, пісьмаў і сацыяльных праблем — 36-44-25; культуры — 36-41-55.

Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі (нумар пашпарта, дату выдачы, кім выдадзены пашпарт), асноўнае месца работы, зваротны адрас, нясуць адказнасць за дакладнасць фактаў і іншай інфармацыі.

Пісьмы, рукапісы, фотаздымкі і малюнкі не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Аб'явы могуць друкавацца не толькі на дзяржаўнай, але і на замежных мовах.

Меркаванне аўтараў публікацый не абавязкова адлюстроўвае пункт гледжання рэдакцыі.

Адказны дзяжурны Ірына КУЛІКОЎСКІХ.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку", 220041, Мінск, праспект Ф.Скарыны, 79.
Аб'ём — два друкаваныя аркушы. Спосаб друку — афсетны. Фармат А2. Індэкс 63867.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 Замова №5198
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Падпісана да друку 10.9.2001 г. у 18.10
Наклад 30.000 паасобнікаў.

Настаўніцкая газета
11 верасня 2001 года

# Падручнікі

*Дадатак да «Настаўніцкай газеты»*

**9 выпуск**

НАВУКОВА-МЕТАДЫЧНЫ ЦЭНТР ВУЧЭБНАЙ КНІГІ І СРОДКАЎ НАВУЧАННЯ МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## Нацыянальныя падручнікі, вучэбныя і вучэбна-метадычныя дапаможнікі для рэфармуемай агульнаадукацыйнай школы з беларускай і рускай мовамі навучання

# 3 клас

**ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!**

У гэтым нумары «Настаўніцкай газеты» мы прэзентуем нацыянальныя падручнікі, вучэбныя і метадычныя дапаможнікі для рэфармуемай агульнаадукацыйнай школы навучання, якія будуць выкарыстоўвацца ў 3 класе пачатковай школы. З вашай дапамогай яны пройдуць грунтоўную апрабацыю ў школах рэспублікі.

Аўтары, выдаўцы, метадысты зрабілі ўсё магчымае, каб і вучні, і настаўнікі атрымалі добрую кніжку для пачатковых класаў.

Падручнікі і вучэбныя дапаможнікі напісаны ў адпаведнасці з сучаснымі стандартамі, праграмнымі патрабаваннямі.

## Беларуская мова

Падручнік «Беларуская мова» для 3 класа аўтара І. І. Паўлоўскага – гэта новы варыянт вучэбнай кнігі для 3 класа агульнаадукацыйнай школы з беларускай мовай навучання, які адпавядае патрабаванням стандартаў, праграме.

Падручнік складзены так, што дазваляе весці навучанне беларускай мове ў двух узаемазвязаных накірунках: першы– выкладанне тэарэтычных звестак па марфалогіі як раздзела навукі аб мове, другі – фарміраванне ў вучняў моўных уменняў і навыкаў.

Практычны матэрыял падручніка накіраваны на трывалае засваенне граматычных правілаў, папаўненне лексічнага запасу, развіццё творчых здольнасцей вучняў.

Заданні да практыкаванняў актывізуюць пазнавальную дзейнасць школьнікаў, развіваюць цікавасць да вывучэння роднай мовы.

«Сшытак» – неад'емная частка вучэбна-метадычнага комплексу для 3 класа. Ён змяшчае цікавыя, займальныя практыкаванні па ўсіх раздзелах праграмы, якія садзейнічаюць выпрацоўцы навыкаў вучэбнай дзейнасці.

У вучэбна-метадычным дапаможніку для настаўнікаў «Беларуская мова ў 3 класе» раскрыты мэты, змест і метадычныя асаблівасці навучання роднай мове ў 3 класе, даюцца парады, як працаваць з падручнікам, паказваецца, для чаго ў падручніку змешчаны тыя ці іншыя практыкаванні, як іх выкарыстоўваць пры арганізацыі працы над правіламі і заданнямі.

«Зборнік дыктантаў па беларускай мове» аўтара І. А. Гімпель складзены з такім разлікам, каб настаўнік пачатковых класаў мог выкарыстаць яго пры правядзенні праверачных і выніковых кантрольных работ. Усе дыктанты прадстаўлены ў выглядзе звязных, сюжэтна і кампазіцыйна закончаных тэкстаў.

У сувязі з тым, што тэкставы матэрыял дыктантаў розны па аб'ёму і ступені складанасці, настаўнік па сваім меркаванні можа выкарыстоўваць яго цалкам або часткова. Больш складаныя тэксты пазначаны зорачкай.




**Беларуская мова:** Падручнік для 3-га кл. агульнаадукац. шк. з бел. мовай навучання/ І. І. Паўлоўскі. – Мн.: Нар. асвета, 2000. – 271 с.: іл.

**Беларуская мова у 3-м класе:** Вучэб.-метад. дапам. для настаўнікаў / І. І. Паўлоўскі. – Мн.: Нар. асвета, 2000. – 80 с.

**Сшытак па беларускай мове:** Вучэб. дапам. для 3-га кл. агульнаадукац. шк. з бел. мовай навучання / І. І. Паўлоўскі. – Мн.: Нар. асвета, 2000. – 128 с.: іл.

**Беларуская мова:** Падручнік для 3-га кл. агульнаадукац. шк. з рус. мовай навучання / Т. М. Валынец, І. Э. Ратнікава, І. С. Роўда, П. П. Шуба; маст. Р. М. Долбік, М. Р. Казлоў, С. Л. Рыжыкава і інш. – Мн.: ТАА «Аракул», 2000. – 224 с.: іл.

**Слоўнік беларускай мовы:** Дапам. для вучняў пачатк. кл. агульнаадукац. шк. / Т. М. Валынец, І. Э. Ратнікава, І. С. Роўда, П. П. Шуба; пад ред. А. В. Спрынчан – Мн.: БелЭн, 2001. – 232 с.: іл.

**Зборнік дыктантаў па беларускай мове для пачатковых класаў** /Аўт.-склад. І. А. Гімпель. – Мн.: ТАА «Юніпрэс», 2001. – 144 с.

Падручнік «Беларуская мова» для 3 класа школ з рускай мовай навучання аўтараў Т. М. Валынец і інш. перапрацаваны з улікам патрабаванняў абавязковага мінімуму зместу канцэпцы моўнай адукацыі, адпавядае аўтарскай праграме, узросту вучняў.

Лінгвістычна і метадычна ўдасканалены шэраг тэм падручніка, павялічана колькасць заданняў на адпрацоўку арфаграфічных навыкаў, развіццё вуснай і пісьмовай звязнай мовы дзяцей.

«Слоўнік беларускай мовы» аўтараў Т. М. Валынец і іншых уваходзіць у комплекс навучальных сродкаў па курсу беларускай мовы для пачатковай школы. Ён адрасуецца вучням 1–3 класаў і складаецца з пяці частак, кожная з якіх уяўляе асобны тып слоўніка і мае адпаведную назву: арфаэпічны («Правільна вымаўляй»), арфаграфічны («Правільна пішы»), тлумачальны («Правільна разумей сэнс слоў»), перакладны («Правільна перакладай»), тэрміналагічны («Беларускія гарады», «Беларускія імёны»).

Пры арганізацыі працы па «Слоўніку» малодшыя школьнікі знаёмяцца не толькі з рознымі відамі лінгвістычных слоўнікаў, выпрацоўваюць навыкі карыстання імі, а і ўзбагачаюць, развіваюць мову.

Падручнік па літаратурнаму чытанню «Чабарок» аўтара А.К. Клышкі для 3 класа школ з рускай мовай навучання перапрацаваны з улікам праграмы, адпавядае ўзроставым асаблівасцям вучняў.

Арыгінальныя мастацкія творы падаюцца без скарачэнняў. Работа над тэкстам, удумлівае чытанне спалучаецца з эмацыянальным успрыняццем.

У аснову методыкі пакладзены прынцып індывідуалізацыі літаратурнай адукацыі шляхам выяўлення чытацкай рэакцыі кожнага вучня на вершаваны ці празаічны твор.

Падручнік таксама прапануе сістэму пытанняў рознага тыпу і ўзроўню, якая дапаможа вучню праз самастойную аналітычную творчую працу зразумець мастацкую своеасаблівасць твораў.

## Руская мова. Літаратурнае чытанне

Падручнік «Радуга» аўтараў В. С. Варапаевай, Т. С. Куцанавай адпавядае аўтарскай праграме па літаратурнаму чытанню. Навізна падручніка заключаецца ў новым падыходзе да адбору і структуравання вучэбнага матэрыялу, стварэння метадычнага апарата. «Радуга» афармлена і пабудавана так, што ўваход дзяцей у свет літаратуры становіцца хоць і няпростым, але творчым заняткам.

Прадуманая сістэма пытанняў і заданняў дазволіць не толькі праверыць разуменне тэкстаў, але і арганізаваць працу над імі.

Кожны раздзел суправаджаецца вуснымі і пісьмовымі заданнямі, па якіх можна праверыць веды і навыкі вучняў.

Вучэбны дапаможнік «Литературное чтение. Хрестоматия» аўтараў-складальнікаў І. А. Гімпель, Л. Ф. Кузняцовай змяшчае наступныя раздзелы: «Былины», «Сказки русских писателей», «Стихи русских поэтов», «Стихи белорусских поэтов», «Рассказы русских писателей», «Сказки зарубежных писателей». Кожны раздзел уключае ў сябе творы пэўнага жанру , якія належаць пяру рускіх, беларускіх і зарубежных пісьменнікаў. Тэкставы матэрыял накіраваны на выхаванне ў вучняў высокіх маральных якасцей, развівае яго эмацыянальную сферу, творчыя здольнасці. Ён удала дапаўняе падручнік «Радуга».




**Радуга:** Учеб. по лит. чт. для 3-го кл. общеобразов. шк. с рус. яз. обучения/ В. С. Воропаева, Т. С. Купанова. – Мн.: 000 «Асар», 2000. – 336 с.: ил.

**Литературное чтение.** Хрестоматия. Учебное пособие для 3-го кл. общеобразоват. шк. с рус. яз. обучения / Авт.-сост. И. А. Гимпель, Л. Ф. Кузнецова. 2-е дораб. изд. – Мн.: ООО «Асар», 2001. – 304 с.: ил.

**Проталинка:** Учебник по лит. чт. для 3 кл. общеобр. школы с бел. яз. обучения/ И. М. Стремок. – Мн.: «Беллітфонд», 2000. – 184 с.: ил.

Падручнік «Проталинка» для 3 класа агульнаадукацыйнай рэфармуемай школы аўтара І. М. Страмок базіруецца на нацыянальнай канцэпцыі літаратурнай адукацыі школьнікаў, адпавядае праграмным патрабаванням і дзяржаўнаму стандарту па літаратурнаму чытанню. Матэрыял падручніка скампанаваны па шасці раздзелах.

Пры адборы мастацкіх твораў аўтар улічвае перш за ўсе ідэйна-мастацкія вартасці іх, эстэтычную каштоўнасць і даступнасць.

У падручнік увайшлі творы пісьменнікаў класікаў рускай, сучаснай і зарубежнай літаратуры.

Заданні носяць развіццёвы характар, патрабуюць разважання, узбагачаюць вучняў ведамі, пашыраюць слоўнікавы запас, большасць з іх разлічана на дыферэнцыраваную працу.

Значная ўвага ўдзяляецца рабоце са словам, яго значэннем.

У канцы кожнай тэмы прапануюцца рэпрадукцыі карцін.

## Матэматыка

Падручнік «Матэматыка» аўтараў Т.М. Чабатарэўскай і іншых змяшчае наступныя раздзелы: «Лікі ад 0 да 1000», «Нумарацыя мнагазначных лікаў», «Складанне і адніманне», «Множанне і дзяленне», «Практыкаванні на замацаванне арыфметычных дзеянняў», «Паўтарэнне».

Пытанні, звязаныя з велічынямі, геаметрычным і алгебраічным матэрыялам, размеркаваны па ўсяму падручніку.

Практыкаванні лагічнага характару, заданні на творчае мысленне, самастойнае адкрыццё ведаў размешчаны ў падручніку раўнамерна і адзначаны зорачкай.




**Матэматыка:** Падруч. для 3-га кл. агульнаадукац. шк. з бел. мовай навучання/ Т. М. Чабатарэўская, А. Т. Катасонава, У. Л. Дрозд і інш.–Мн.: Нар. асвета, 2000.– 333 с.: іл.

**Математика:** Учеб. для 3-го кл. общеобразоват. шк. с рус. яз. обучения/ Т. М. Чеботаревская, А. Т. Катасонова, В. Л. Дрозд и др. – Мн.: Нар. асвета, 2000. – 335 с.: ил.

**Тетрадь для самостоятельных проверочных работ по математике:** Учеб. пособие для 3-го кл. общеобразоват. шк. с рус. яз. обучения/ В. Л. Дрозд, М. А. Урбан, А. Н. Щиряков. – Мн.: Юнипресс, 2000. – 96 с.: ил.

**Матэматыка ў трэцім класе:** Вучэб.-метад. дапам. для настаўнікаў/ Т. М. Чабатарэўская, В. У. Нікалаева. – Мн.: Нар. асвета 2000. – 255 с.

**Математика в третьем классе:** Учеб.-метод. пособие для учителей. / Т. М. Чеботаревская, В. В. Николаева; пер. с бел. яз. Г. С. Сенокосовой. – Мн.: Нар. асвета, 2000. - 255 с.

**Дидактический материал по математике:** 3 кл./Авт.-сост. Т. М. Чеботаревская, В. В. Николаева. – Мн.: Юнипресс, 2000. – 176 с.





## Руская мова

Падручнік «Русский язык» для 3 класа школ з рускай мовай навучання аўтараў А. С. Грабчыкавай і інш. пабудаваны на камунікатыўнай аснове. Змест і метадычны апарат накіраваны на ўсебаковае развіццё вучняў: іх мовы, мыслення, уяўлення, эстэтычнае і маральнае выхаванне.

У ім узмоцнена арфаграфічная накіраванасць. Праведзена скразная лінія ад правапісу ненаціскных галосных у корані да напісання канчаткаў з апорай на вядучы прынцып рускай арфаграфіі. Featured Рознабаковыя заданні і пытанні, а таксама практычныя работы дапамогуць найбольш свядома засвоіць вучэбны матэрыял.

Плануемы да выдання вучэбны дапаможнік «Тетрадь» з'яўляецца неабходным дадаткам да падручніка і змяшчае разнастайныя практыкаванні, накіраваныя на адпрацоўку арфаграфічных навыкаў і замацавання ведаў па граматыцы. Акрамя таго, «Тетрадь» утрымлівае вялікую колькасць займальных заданняў і лінгвістычных гульняў. Практыкаванні вучэбнага дапаможніка настаўнік можа выкарыстоўваць на розных этапах урока, а таксама для індывідуальнай работы або хатніх заданняў.

Вучэбна-метадычны дапаможнік «Обучение русскому языку» гэтых жа аўтараў уключае распрацоўкі ўрокаў па вучэбна-метадычнаму комплексу «Русский язык» для 3 класа. У ім настаўнік знойдзе асноўныя тэарэтычныя звесткі па рускай мове і методыцы яе выкладання, а таксама лінгва-метадычныя каментарыі да канкрэтных тэм, урокаў і практыкаванняў.

«Дидактический материал» аўтара А. С. Грабчыкавай з'яўляецца часткай вучэбна-метадычнага комплексу па рускай мове для 3 класа.

Мэта дапаможніка – забяспечыць настаўніка і вучняў дадатковымі практыкаваннямі , даць магчымасць вар'іраваць працу на ўроках з улікам канкрэтных умоў, магчымасцей і пастаўленых задач. Выкарыстанне дадатковага матэрыялу дапаможа ажыццявіць рознаўзроўневы падыход у навучанні мове, арганізаваць самастойную работу вучняў.

Практыкаванні зборніка накіраваны на фарміраванне арфаграфічных навыкаў, удасканаленне розных аспектаў моўных уменняў, развіццё звязнай мовы вучняў.




**Русский язык:** Учеб. для 3-го кл. общеобразов. шк. с рус. яз. обучения/ Е. С. Грабчикова, Н. Н. Максимук. – Мн.: «Асар», 2000. – 336 с.; ил.

**Обучение русскому языку в 3-м классе:** Учеб.-метод. пособие к учеб. «Русский язык» для 3-го кл. шк. с рус. яз. обучения/ Е. С. Грабчикова, Н. Н. Максимук. – Мн.: 000 «Асар», 2000. – 128 с.

**Дидактический материал по русскому языку. 3 кл:** Пособие для педагогов/ Авт.-сост. Е. С. Грабчикова. – Мн.: Юнипресс, 2001. – 192 с. – (Пособие для педагогов и родителей.)

**Русский язык:** Учеб. для 3-го кл. общеобразоват. шк. с бел. яз. обучения/ Я. И. Вильтовская. Т. Н. Волынец, И. Э. Ратникова. – Мн.: Оракул 2000. – 271 с.: ил.

**Сборник изложений по русскому языку для начальных классов**/ Авт.-сост. И. А. Гимпель, Н. И. Минкевич. – Мн.: Юнипресс, 2001. – 272 с.

Падручнік «Русский язык» для школ з беларускай мовай навучання аўтараў Я. І. Вільтоўскай і іншых, напісаны ў адпаведнасці з аўтарскай праграмай, вызначаецца выразнай структурай. Раздзелы добра прадуманы, насычаны рознымі відамі работ, цікавымі заданнямі, што дапаможа настаўніку пераключаць увагу вучняў, папярэджвацьператамленне, падтрымліваць інтарэс на працягу ўсяго ўрока. Аб'ём інфармацыі, спосабы яе падачы, прыёмы і метады навучання пададзены з улікам узросту вучняў. Змест практычнага матэрыялу накіраваны на фарміраванне трывалых арфаграфічных і пунктуацыйных навыкаў.

Метадычны апарат уключае сістэму заданняў, якая дазваляе ўсебакова аналізаваць вывучаемыя лексічныя і граматычныя катэгорыі ў іх арганічнай узаемасувязі.

Дапаможнік для настаўнікаў «Сборник изложений по русскому языку для начальных классов» аўтараў-складальнікаў І. А. Гімпель, Н. І. Мінкевіч можна выкарыстоўваць пры правядзенні навучальных пераказаў па рускай мове з вучнямі 1–3 класаў 12-гадовай агульнаадукацыйнай школы з беларускай і рускай мовамі навучання.

Падабраныя тэксты садзейнічаюць развіццю мовы і мыслення вучняў, пашырэнню іх кругагляду. Матэрыялам зборніка з'яўляюцца ўрыўкі з твораў класікаў рускай літаратуры, сучасных дзіцячых пісьменнікаў, а таксама тэксты, складзеныя аўтарамі. Увесь матэрыял размеркаваны ў парадку нарастаючай цяжкасці. Некаторыя тэксты пазначаны зорачкай. Яны разлічаны для работы з найбольш падрыхтаванымі вучнямі.

## Беларуская мова. Літаратурнае чытанне

Падручнік «Буслянка» для 3 класа агульнаадукацыйнай 12-гадовай школы з беларускай мовай навучання аўтараў А. В. Вольскага, І. А. Гімпель пабудаваны на прынцыпова новай аснове. Ён уключае наступныя раздзелы: «Краіна мая, радасць мая, песня мая маладая», «Розуму ў народа вучымся заўсёды», «Дзе карані твае,адкуль твой род пачаўся...», «Мы ўсе старацца будзем дзеля карысці людзям», «Школьны ранец можа быць і цяжкі, і лёгкі...», «Кажуць, у дарозе восень залатая...», «Мяккі снег лятае пухам, і канца яму няма...», «Вясна прыйшла, каб святам стаць...», «Слава травам, слава кветкам, слава летнім яркім дням...».

У ім прасочваецца паслядоўнае, сістэматычнае звяртанне да вывучэння вуснай народнай творчасці, твораў беларускіх, рускіх і зарубежных пісьменнікаў. Любы мастацкі твор вывучаецца як вынік творчай дзейнасці аўтара, як эстэтычнае пераўтварэнне рэальнасці.

Кожная тэма заканчваецца займальным матэрыялам, уведзены малюнкі па развіцці звязнай мовы вучняў, творы для дадатковага чытання.

Метадычны апарат падручніка падкажа настаўніку, як лепш арганізаваць працу з класам, самастойную работу з вучнямі.

У канцы падручніка змешчаны слоўнік літаратуразнаўчых тэрмінаў.




**Буслянка:** Падруч. па літаратурнаму чытанню для 3-га кл. агульнаадукац. шк. з бел. мовай навучання / А. В. Вольскі, І. А. Гімпель. – Мн.: «Асар», 2000. – 336 с.; іл.

**Чабарок:** Падруч. па літ. чытанню для 3-га кл. агульнаадукац. шк. з рус. мовай навучання/ А. Клышка. – Мн.: Нар. асвета, 2000. – 279 с.

Вучэбны дапаможнік «Тетрадь для самостоятельных проверочных работ по математике» аўтараў У. Л. Дразда і інш. зарыентаваны на змест падручніка «Матэматыка, 3 клас» аўтараў Т. М. Чабаратэўскай і інш. Кожнай вучэбнай чвэрці адпавядаюць чатыры праверачныя работы, якія прадстаўлены ў пяці варыянтах. Заданні варыянтаў з першага па чацвёрты маюць прыкладна аднолькавую складанасць. Заданні пятага варыянта адрасаваны вучням, якія лёгка спраўляюцца з нестандартнымі заданнямі падручніка. У дапаможніку прапанаваны варыянты выніковых кантрольных работ як на канец чвэрцяў, так і за год.

У дапаможніку для настаўнікаў « Матэматыка ў 3 класе» сспланаваны ўрокі па кожнай тэме, сфармуляваны прыкладныя мэты. Усе ўрокі характарызуюцца па агульнай схеме: вусная работа, работа ў сшытку і заданні на дом. Асаблівая ўвага надаецца задачам павышанай цяжкасці, прымяненню агульналагічных прыёмаў разважанняў для іх рашэння, паказваюцца розныя падыходы пры арганізацыі пошуку рашэння задач.

«Дыдактычны матэрыял» утрымлівае заданні для 31 рознаўзроўневай самастойнай работы ( у трох варыянтах), 8 кантрольных работ ( у трох варыянтах), а таксама дадатковыя заданні для арганізацыі работы ў класе і дома. Акрамя гэтага, у раздзеле «Метадычныя рэкамендацыі да задач павышанай цяжкасці» даюцца ўзоры работы настаўніка з вучнямі ў пазаўрочны час.

## Выяўленчае мастацтва. Тэхналогія

Вучэбны дапаможнік «Выяўленчае мастацтва» аўтара Л. В. Сяргеенкі знаёміць вучняў з асноўнымі відамі мастацтва, прапануе заданні, якія дапамогуць удасканаліць навыкі практычнай работы.

Вучэбны дапаможнік мае даведачны матэрыял і парады, якія будуць садзейнічаць развіццю мастацкіх здольнасцей вучняў пры вырашэнні задач рознага ўзроўню складанасці.




**Выяўленчае мастацтва:** Вучэб. дапам. па выяўл. мастацтве для 3 кл. агульнаадукац. шк. з бел. і рус. мовамі навучання/ Л. В. Сяргеенка. – Мн.: Беларусь, 1998. – 142 с.: іл.

**Дзівосныя самаробкі:** Вучэб. дапам. па курсу "Тэхналогія" для 3-га кл. агульнаадукац. шк. з бел. і рус. мовамі навучання/ В. П. Ласоўская. – Мн.: Нар. асвета, 2000. – 72 с.: іл.

Вучэбны дапаможнік «Дзівосныя самаробкі» аўтара В. П. Ласоўскай прызначаны для правядзення ўрокаў раздзела «Тэхналогія апрацоўкі матэрыялаў» па курсу «Тэхналогія» ў 3 класе.

Асновай дапаможніка з'яўляецца яркі, эстэтычна аформлены ілюстрацыйны матэрыял, які распрацаваны на базе схем, чарцяжоў, лякалаў і г.д.

Ён будзе садзейнічаць выпрацоўцы практычных уменняў па рабоце з паперай, кардонам, тэкстыльным і прыродным матэрыялам, развіццю ў дзяцей творчай фантазіі.

У канцы дапаможніка аўтар дае метадычныя парады па выкананні заданняў. Большая частка заданняў звязана з прыкладным мастацтвам. Вучням прапаноўваецца сканструяваць розныя прадметы, рэчы для свайго дома, школы.

## Чалавек і свет

Інтэграваны курс «Чалавек і свет» аўтараў В. Л. Белай і інш. уключае два блокі: «Прырода і чалавек», «Чалавек і яго здароўе». У даступнай для вучняў форме даюцца не толькі першапачатковыя геаграфічныя звесткі, а і звесткі аб будове арганізма чалавека, аб карысных і шкодных звычках. Асаблівая ўвага ўдзяляецца пытанням фарміравання гігіенічных навыкаў і навыкаў здароўя, ладу жыцця, правілам супрацьпажарнай бяспекі, дарожнага руху.

Яркія, каляровыя ілюстрацыі складаюць арганічнае візуальнае суправаджэнне тэксту, падключаючы да засваення матэрыялу зрокавую памяць вучняў.




**Чалавек і свет:** Падруч. для 3-га кл. агульнаадукац. шк. з бел. мовай навучання / В. Л. Белая, Л. І. Дурэйка, Г. Д. Лосева. – Мн.: Нар. асвета, 2000. – 207 с.: іл.

**Человек и мир:** Учеб. для 3-го кл. общеобразоват. шк. с рус. яз. обучения/ В. Л. Белая, Л. И. Дурейко, Г. Д. Лосева. – Мн.: Нар. асвета, 2000. –207 с.: ил.

**Метадысты сектара пачатковага навучання Навукова-метадычнага цэнтра вучэбнай кнігі і сродкаў навучання Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь**